**Алена Трубчык**
(Мінск)

# Асноўныя накірункі адукацыйнай палітыкі на беларускай тэрыторыі Грамадзянскага ўпраўлення Усходніх зямель (1919-1920 гг.)

З пачаткам наступлення польскіх войскаў 8 лютага 1919 г. на занятай тэрыторыі Беларусі пачала ўсталёўвацца ваенная ўлада. Усе распараджэнні выдаваліся Генеральным штабам Войска Польскага сумесна з Літоўска-беларускім дэпартаментам Міністэрства замежных спраў. 22 лютага 1919 г. у Генеральным штабе была распрацавана „Схема адміністрацыі ўсходніх крэсаў”. Згодна з ёю, генеральны камісар Людвік Калянкоўскі (былы кіраўнік секцыі Міністэрства замежных спраў, назначаны на пасаду з 19 лютага 1919 г.) з'яўляўся найвышэйшай грамадзянскай заканадаўчай і выканаўчай інстанцыяй, узначальваў Літоўска-беларускі дэпартамент, які складаўся з 6 аддзелаў і галоўнай канцылярыі. Справамі рэлігіі і школьніцтва на занятай польскімі войскамі тэрыторыі павінен быў займацца аддзел асветы і веравызнанняў. Аднак ён з'яўляўся толькі падмуркам для будучай адукацыйнай палітыкі, таму што ў перыяд актыўных ваенных дзеянняў ні аб якой асветнай працы сур'ёзнай размовы ісці не магло.

19 красавіка 1919 г. 1-я армія Войска Польскага (ВП) заняла і здолела ўтрымаць Вільню. 22 красавіка была абнародавана адозва Галоўнакамандуючага „Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага”, у якой абяцаў „даць магчымасьць развязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы гэтак, як самі захочаце, без якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы”[1]. У адозве ніводнага канкрэтнага слова не гаварылася аб будучым дзяржаўным ладзе беларускіх зямель, аднак яна выклікала вялікі рэзананс у беларускім і польскім грамадстве і знайшла пэўных прыхільнікаў з аднаго боку і лютых праціўнікаў з другога. Разам з тым адбылася змена структуры польскага ўпраўлення. Людвік Калянкоўскі, не згодны з палітычным кірункам Пілсудскага, самавольна адмовіўся ад пасады генеральнага камісара Усходніх зямель і быў звольнены 5 мая 1919 г. Яшчэ 15 красавіка на яго месца была вылучана кандыдатура Ежы Марціна Асмалоўскага, блізкага паплечніка Пілсудскага, які, аднак, як палітычны дзеяч амаль не меў прыхільнікаў ні з польскага, ні з беларускага боку.

[1] „Звон”, 1919 , 25 жніўня (№ 1), с. 1-2.

З 13 мая 1919 г. Пілсудскі выдаў дэкрэт, які тычыўся арганізацыі Грамадзянскага ўпраўлення Усходніх зямель (Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich). Генеральны камісарыят станавіўся цэнтральнай уладай на ўсходніх землях і непасрэдна падпарадкоўваўся галоўнакамандуючаму. Першапачаткова камісарыят складаўся з 13 аддзелаў (сярод іх аддзел асветы і культуры, які з красавіка па кастрычнік 1919 г. узначальваў Уладзіслаў Ліхтаровіч). Пастунова арганізацыя камісарыята ўскладнялася, былыя аддзелы былі рэарганізаваны ў 8 секцый (агульная, адміністрацыйная, гаспадарчая, скарбовая, юстыцыі, грамадскай асветы, аправізацыйная, тэхнічная), назначаліся загадчыкі (шэфы), якім падпарадкоўваліся кіраўнікі пэўных аддзелаў. З кастрычніка 1919 г. секцыю грамадскай асветы ўзначаліў Люцыян Зажэцкі. Яму падпарадкоўваліся: агульны аддзел (начальнік — Вацлаў Язерскі), аддзел агульных школ (Уладзімір Галецкі), аддзел сярэдніх і прафесійных школ (Казімір Жэлянгоўскі). Пры секцыі працавалі школьныя рэвізоры, галоўнай задачай якіх з'яўлялася „ажыцяўленне непасрэднага кантролю за педагагічнай і грамадскай дзейнасцю школ усіх тыпаў". Пры наведванні пэўнай школы, рэвізора павінен быў суправаджаць кіраўнік школы, або яго намеснік, якія павінны былі валодаць польскай мовай. Копіі актаў рэвізіі, якія афармляліся толькі па-польску, дасылаліся акруговым і павятовым школьным інспектарам[2].

Усе абавязковыя да выканання распараджэнні цэнтральных органаў улады, якія выходзілі на занятых польскімі войскамі беларускіх землях, агалошваліся з дапамогай „Службовага дзённіка Грамадзянскага ўпраўлення Усходніх зямель" (Dziennik Urzędowy Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich), які пачаў выдавацца з красавіка1919 г. у Варшаве, а затым у Вільні. „Дзённікі" неабходна было выпісваць акруговым, павятовым і нават гмінным уладам. Насельніцтва магло набываць выдадзеныя нумары ў гарадскіх кніжных крамах. Выдадзеныя праз генеральнага камісара, яго намесніка або кіраўнікоў секцый распараджэнні, павінны былі друкавацца ў бліжэйшым ад даты іх падпісання нумары.

Непасрэдныя службовыя кантакты секцыя асветы ажыцяўляла толькі з акруговымі інспектарамі, праз якіх адукацыйная палітыка праводзілася далей на паветы. 28 мая выйшла распараджэнне аб арганізацыі акруг і акруговых улад на тэрыторыі Грамадзянскага ўпраўлення Усходніх зямель (ГУУЗ). 7 чэрвеня былі ўтвораныя Віленская (Віленскі, Троцкі, Ашмянскі, Свянцянскі, Лідскі, Гродненскі, Навагрудскі, Дзісненскі, Вілейскі, Браслаўскі паветы) і Брэсцкая акругі (Брэст-Літоў-

[2] Dziennik Urzędowy Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich (dalej: Dz. U. ZCZW), 1919, nr 31 (18 listop.), poz. 340, Rozporządzenie Tymczasowe Komisarza Generalnego Ziem Wshodnich, dotyczące szkolnictwa i oświaty, 11 października 1919 r.

скі, Ваўкавыскі, Пружанскі, Слонімскі, Кобрынскі, Пінскі, Мазырскі, Баранавіцкі паветы), 12 верасня — Мінская акруга (Мінскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Ігуменскі, Слуцкі паветы). У склад ведамства кожнай акругі, на чале якой стаяў акруговы камісар (з 10 кастрычніка 1919 г. пасада была перайменавана ў „начальнік акругі"), уваходзілі: намеснік камісара, інспектараты (школьны, скарбовы, дзяржаўнай маёмасці і лясоў) і працаўнікі канцылярыі. Склад інспектароў вызначаў і зацвярджаў генеральны камісар па прапанове акруговага камісара. У склад акруговага школьнага інспектарата ўваходзілі: школьны інспектар, які праз акруговага камісара падпарадкоўваўся кіраўніцтву секцыі асветы Генеральнага камісарыята, яго намесніка, школьных рэвізораў. Карэспандэнцыя школьнага інспектарата ажыццяўлялася непасрэдна і не патрабавала рэзалюцый акруговага камісара. Распараджэнні, якія адрасаваліся павятовым школьным уладам, завяраліся ўласнай пячаткай акруговага школьнага інспектара. Аднак, у выключных выпадках, акруговы камісар мог прыпыніць выхад распараджэння да высвятлення спрэчных пытанняў праз секцыю асветы[3]. У 1919-1920 гг. школьным інспектарам Віленскай акругі быў Вітальд Вянслаўскі, Мінскай акругі — Люцыян Квек, Брэсцкай акругі — Казімір Вольбек. Па сутнасці, яны выконвалі ролю пасрэднікаў паміж цэнтральнымі і мясцовымі асветнымі ўладамі.

Ніжэйшай ступенню ў арганізацыйнай структуры афіцыйнай адукацыйнай улады з'яўляўся інстытут павятовых школьных інспектараў, які быў створаны ў адпаведнасці з распараджэннем намесніка Генеральнага камісара Эдмунда Івашкевіча ад 5 лістапада 1919 г. аб арганізацыі паветаў і павятовых улад[4]. Школьнымі інспектарамі на паветы, часцей за ўсё, назначаліся чыноўнікі з педагагічнай адукацыяй. Пераважна гэта былі былыя кіраўнікі сярэдніх і прафесійных навучальных устаноў. У выключных выпадках на пасаду школьнага інспектара назначалася асоба без неабходнай кваліфікацыі, але з выдатнымі якасцямі адміністратара. Першапачатковай задачай нованазначанага школьнага інспектара была арганізацыя павятовага інспектарата. Аб памяшканні для канторы школьных улад неабходна было паклапаціцца мясцоваму старасту. Акрамя гэтага, ён абавязаны быў забяспечыць інспектару абслугоўваючы персанал, пару коней і вознага для ажыццяўлення рэвізій у вясковых школах. У складзе інспектарата, акрамя самога школьнага інс-

[3] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 5 (28 czerw.), poz. 39, Zarządzenie Komisarza Generalnego Ziem Wshodnich o organizacji okręgów i władz okręgowych na obszarach wschodnich, zajętych przez Wojska Polskie, 28 maja 1919 r.

[4] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 28 (11 listop.), poz. 303, Zarządzenie Komisarza Generalnego Ziem Wshodnich o organizacji powiatów i władz powiatowych na obszarach wschodnich, zajętych przez Wojska Polskie, 5 listopada 1919 r.

пектара, павінен быў мецца сакратар, які выконваў абавязкі намесніка, і працаўнік канцылярыі. Павятовы школьны інспектар меў уласную пячатку з надпісам „Inspektor Szkolny Powiatu...” і права ажыцяўляць уласнае справаводства. Амаль уся бягучая карэспандэнцыя завяралася павятовым старастам. Школьныя інспектары на паветах у сваёй прафесійнай дзейнасці былі адказнымі перад акруговымі школьнымі ўладамі, якім кожны месяц неабходна было даваць справаздачу аб развіцці школьнай справы ў адпаведным павеце. Копію справаздачы ад павятовага школьнага інспектара, у сваю чаргу, патрабаваў і стараста, які ўключаў пададзеныя звесткі ў сваю справаздачу начальніку акругі. Назначэнне настаўнікаў ажыцяўлялася інспектарам толькі пасля адабрэння прадстаўленых кандыдатур з боку старасты. Канчатковае зацвярджэнне педагагічнага персаналу рабіў акруговы школьны інспектар. Прапановы аб звальненні настаўнікаў рабіў таксама павятовы інспектар, які пасля тлумачэння свайго рашэння старасту, накіроўваў спіс вылучаных асоб акруговаму інспектару для канчатковага вырашэння пытання. Непасрэднымі абавязкамі павятовага школьнага інспектара з’яўлялася вядзенне вызначанай вышэйшымі ўладамі дакументацыі: 1) дзённіка наведванняў школ свайго павета 2) статыстыку школ і ўсіх асветных устаноў павета. На ўсіх узроўнях органаў асветы павінны былі весціся спецыяльныя статыстычныя кнігі. Дадзеныя аб колькасці, тыпах школ, мове выкладання, колькасці вучняў і педагагічнага персаналу ў паветах падаваліся акруговым школьным інспектарам, якія пасля праверкі і ўдакладнення інфармацыі перадавалі звесткі ў секцыю асветы пры Генеральным камісарыяце. Школы, якія не трапілі ў статыстычныя кнігі секцыі асветы, лічыліся нелегальнымі і не мелі права працягваць сваю чыннасць. Акрамя таго, планаваць свой бюджэт павятовыя школьныя інспектары маглі толькі на падставе афіцыйна зацверджаных школ. Таму пры адчыненні новых школ узнікала парадаксальная сітуацыя: толькі дзеючую школу можна было ўключыць у бюджэт будучага года, аднак вельмі цяжка было знайсці грошы, каб спачатку адчыніць школу без дзяржаўнай падтрымкі; 3) кнігу персаналу (спіс асоб, якія працуюць у школах павета); 4) інвентарныя кнігі канторы і канцылярыі; 5) фінансавую справаздачу аб выдатках за кожны месяц[5]. Па ўсіх гаспадарча-адміністрацыйных праблемах павятоваму школьнаму інспектару прыходзілася звяртацца да старасты, што ставіла першага ў моцную службовую залежнасць. Таму на агульны ўзровень развіцця школьнай справы ў паветах у значнай меры ўплывалі аса-

[5] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 34 (25 listop.), poz. 396, Zarządzenie Komisarza Generalnego Ziem Wshodnich, zawierające tymczasowy regulamin służbowy dla inspektorów szkolnych powiatowych, 6 listopada 1919 r.

бістыя адносіны паміж мясцовымі прадстаўнікамі адміністрацыйнай і школьнай улады.

Адукацыйная палітыка польскіх улад на занятых землях вызначалася вельмі непаслядоўным і невыразным характарам. Тлумачыцца гэта не толькі цяжкімі ўмовамі ваеннага часу і не вызначаным геапалітычным лёсам беларускіх тэрыторый, а перш за ўсё адсутнасцю ў гэты час адзінай адукацыйнай сістэмы ў самой Польскай дзяржаве. Акрамя таго, адукацыйныя ўлады на тэрыторыі ГУУЗ, у адрозненні ад Польшчы, былі пастаўлены ў поўную залежнасць ад грамадзянскай адміністрацыі. Перш чым будаваць новую адукацыйную сістэму, неабходна было спачатку зламаць, або часткова прыстасаваць усё тое, што засталося ў школах на гэтых землях ад былых расійскай, нямецкай і бальшавіцкай улад. Для гэтага не было ні дакладна вызначанай праграмы, ні адпаведных працаўнікоў, ні грашовых сродкаў. Практычнае ажыццяўленне адукацыйнай палітыкі значна залежыла ад асабістых палітычных поглядаў мясцовых кіраўнікоў. Такой сітуацыі спрыяла адсутнасць наладжанай сістэмы кантролю з-за недахопу транспартных сродкаў пры тым, што тэрыторыі паветаў былі ў некалькі разоў большыя, чым у Польшчы. Акрамя адміністрацыі ГУУЗ, на развіццё школьнай справы значна ўплывалі грамадскія арганізацыі (Таварыства Стражы крэсовай, Галоўная апякунская рада, Беларуская школьная рада і інш.), якія вельмі часта канкуравалі паміж сабой і дзейнічалі насуперак палітыцы мясцовых улад. Значны ўплыў на вектар адукацыйнай палітыкі аказалі ў гэты час адносіны паміж беларускімі нацыянальнымі дзеячамі і польскай уладай.

Упершыню асноўныя накірункі адукацыйнай палітыкі абмяркоўваліся на канферэнцыі прадстаўнікоў адукацыйных улад (кіраўніка аддзела асветы У. Ліхтаровіча, школьнага інспектара Віленскай акругі В. Вянслаўскага, і „аднаго з павятовых школьных інспектараў”) у прысутнасці генеральнага камісара Усходніх зямель 31 ліпеня 1919 г. у Вільні. Зыходзячы з аб’ектыўных цяжкасцей, у якіх знаходзілася школьная справа, і адсутнасці ў Генеральным камісарыяце ўласных грашовых сродкаў, Асмалоўскі вызначыў наступнае: „Адносна рускіх школ мы не маем ніякіх абавязкаў і ніякіх субсідый не выдаём. Беларускім школам належыць даць субсідыі, калі аб’ектыўна знойдзецца пэўная колькасць жадаючых вучыцца па-беларуску. Хутчэй за ўсё, такіх выпадкаў будзе мінімальна. Яўрэйскія школы ніякіх субсідый атрымліваць не будуць. Мы і так дазволілі насельніцтву ажыццяўляць такую апеку, што на большую дапамогу ад урада яны разлічваць не павінны. У нас няма ніякага спецыяльнага грашовага фонду на развіццё школ, акрамя таго застаецца не акрэсленым наш стасунак да Польшчы, таму крэдыт, які мы атрымалі, аддаём на польскія школы, а для астатніх будзем з’яў-

ляцца толькі добразычлівымі наглядальнікамі"[6]. Гэтыя рэкамендацыі адрасаваліся перш за ўсё Вянслаўскаму, які ў гэты час толькі распачаў арганізацыю школьнага інспектарата Віленскай акругі. Відавочна, што для іншых тэрыторый адукацыйная палітыка бачылася па-іншаму, бо Асмалоўскі нічога не гаварыў пра Брэстчыну, і наадварот, падкрэсліў, што ў першую чаргу ўсе магчымыя сродкі неабходна накіраваць на Міншчыну. З матэрыялаў канферэнцыі можна заўважыць, што галоўны прадстаўнік адукацыйнай улады Ліхтаровіч не адыгрываў ніякай уплывовай ролі. Асмалоўскі абмяркоўваў асноўныя пытанні толькі з Вянслаўскім і ніяк не адрэагаваў на адзінае вельмі кароткае выступленне кіраўніка аддзела асветы, які заявіў аб тым, што ён пачаў назначэнні настаўнікаў, якіх, па яго меркаванню, было дастаткова для тых школ, якія ўжо існавалі, а для новых прапанаваў пачаць арганізацыю сеткі настаўніцкіх семінарый. Цікава, што за ўвесь перыяд дзейнасць аддзела асветы з Ліхтаровічам на чале (красавік — кастрычнік 1919 г.) не захавалася ніводнай справаздачы. Так сама невядома, пры якіх абставінах у канцы кастрычніка 1919 г. адбылася змена кіраўніцтва і ўсяго кадравага складу дадзенага аддзела. Аднак відавочна, што погляды Ліхтаровіча прынцыпова адрозніваліся ад той дзейнасці, якую распачала Страж крэсова і мясцовыя школьныя інспектары, рыхтуючы школы на ўсходніх землях да новага навучальнага года.

Адразу пасля заняцця польскімі войскамі Гродзеншчыны і Віленшчыны, з красавіка 1919 г. Таварыства Стражы крэсовай падрыхтавала паведамленне „Аб найбольш пільных патрэбах школьніцтва на Усходніх землях". У ім сцвярджалася, што на [дадзеных тэрыторыях] ніякай школьнай справы не вядзецца з-за адсутнасці будынкаў і настаўнікаў. Таварыства зрабіла выснову аб тым, што перыяд летніх канікул неабходна выкарыстаць для адбудовы школ і арганізацыю настаўніцкіх курсаў[7]. Крытычную сітуацыю, у якой апынуліся школьныя ўлады летам 1919 г. наступным чынам апісаў школьны інспектар Брэсцкай акругі: „Калі рамонт школьных будынкаў і забеспячэнне школ неабходнымі прыладамі і падручнікамі патрабавалі каласальнай працы, то ў сто разоў цяжэй было знайсці адпаведны настаўніцкі персанал"[8]. Каб падрыхтаваць мінімум 600 настаўнікаў толькі для Гродзеншчыны былі арганізаваны 2-3-месячныя польскія педагагічныя курсы ў Беластоку,

[6] Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy (dalej: BPW), Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1671, k. 93-95, Protokół konferencji z 31 lipca 1919 r. w Wilnie.

[7] J. Gierowska-Kałłaur, *Straż Kresowa a Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich. Współdziałanie czy rywalizacja?*, Warszawa 1999, s. 26.

[8] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1773/10 IV, k. 1-4, Sprawozdanie rzeczowe Inspektoratu Szkolnego Okręgu Brzeskiego za czas swego istnienia od 3.04.1919 r. do 29.09.1920 r.

Гродне, Ваўкавыску. Па меркаванню школьнага інспектара Ваўкавыскага павета Стэфана Цера, „у той цяжкі час перад польскімі ўладамі паўстала пытанне: на якія пласты насельніцтва абаперціся, каб утвараць як мага больш польскіх школ? Беларускія не браліся ва ўлік таму, што іх зненавідзела мясцовае насельніцтва за перыяд нямецкай акупацыі, рускія школы адчыняць было небяспечна, улічваючы палітычныя абставіны бягучай вайны”[9]. Настаўніцкія курсы, якія былі арганізаваны стараннямі галоўнага сакратара павятовай арганізацыі Польскай мацежы школьнай Феліцыі Павенскай у Ваўкавыску ў канцы ліпеня 1919 г., скончыла 15 чалавек, якія заклалі падмурак развіцця польскага школьніцтва ў павеце. З афіцыйнай перапіскі Польскай мацежы школьнай з вышэйшымі адукацыйнымі ўладамі вынікае, што на дадзеныя настаўніцкія курсы жадала запісацца значная колькасць беларускіх настаўнікаў, якім было прапанавана спачатку вывучыць польскую мову на агульных курсах. Адсутнасць перспектывы працаваць у беларускай, ці рускай школе прымушала настаўніцтва шукаць пасады ў польскіх школах, арганізацыя якіх набывала даволі шырокія маштабы. Да красавіка 1920 г. у Ваўкавыскім павеце было арганізавана 68 новых польскіх школ, у якіх працавалі 83 настаўнікі і навучаліся 1822 хлопчыкі і 1216 дзяўчынак[10]. Летнія курсы праводзіліся таксама ў Брэсце, Кобрыне, Пружанах і Слоніме. На Віленшчыне ў гэты час стан школьнай справы падаваўся больш аптымістычным, чым на Гродзеншчыне — у кожным павеце тут налічвалася прыкладна 50 школ. Аднак у Лідскім, Віленскім, Ашмянскім, Свянцянскім паветах і ў Лідзе таксама не хапала больш за 600 настаўнікаў. Арганізацыя настаўніцкіх курсаў была на той час самай хуткай і таннай магчымасцю забяспечыць як мага больш польскіх школ настаўнікамі. Аднак большасць з запланаваных курсаў так і не былі арганізаваныя „з-за адсутнасці адпаведных кандыдатаў”[11]. Па гэтай жа прычыне адкрыццё настаўніцкіх семінарый адкладвалася на больш далёкую перспектыву. Толькі ў снежні 1919 г. кіраўнік секцыі асветы Л. Зажэцкі загадаў акруговым школьным інспектарам вызначыць магчымасці арганізацыі на тэрыторыі ГУУЗ сеткі настаўніцкіх семінарый: удакладніць наяўнасць адпаведных будынкаў для семінарый і інтэрнатаў, падлічыць выдаткі на ўтрыманне педагагічнага персаналу і рамонт, вызначыць прыблізны колькасны, сацыяльны і нацы-

[9] Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (далей: ДАБВ), фонд 310, вопіс 1, справа 22, аркуш 320, Przebieg rozwoju szkolnictwa na terenie powiatu wołkowyskiego od czasu ukonstytuowania się władz polskich 17 lutego 1919 r., 1 czerwca 1920 r.

[10] ДАБВ, ф. 310, в. 1, спр. 22, арк. 24, Statystyka szkół powszechnych w 1919-1920 r.

[11] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1773/10 IV, k. 1-4, Sprawozdanie rzeczowe Inspektoratu Szkolnego Okręgu Brzeskiego za czas swego istnienia od 3.04.1919 r. do 29.09.1920 r.

янальны склад вучняў і выкладчыкаў і г.д.[12] Дзяржаўным семінарыям дазвалялася працаваць толькі на польскай мове. На тэрыторыі ГУУЗ маглі ўтварацца семінарыі з іншымі мовамі навучання, аднак у гэтым выпадку аб дзяржаўных субсідыях размовы ісці не магло. У сакавіку 1920 г. у Брэсцкай акрузе дзейнічалі 2 польскія настаўніцкія семінарыі, у Віленскай — 4, у Менскай — ніводнай[13]. З кастрычніка 1919 г. пачалося сістэматычнае фінансаванне з бюджэту ГУУЗ курсаў і семінарый па падрыхтоўцы настаўнікаў для ўсходніх зямель, арганізаваных на тэрыторыі Польшчы. Да канца 1919 г. на тэрыторыю ГУУЗ было накіравана некалькі соцень польскіх настаўнікаў. Аднак сам Зажэцкі прызнаваў, што гэта не вырашыла пастаўленых задач. Настаўнікі мелі вельмі нізкую кваліфікацыю, працавалі без энтузіязму, не маглі знайсці паразумення з мясцовым насельніцтвам. Сапраўды, было мала жадаючых ехаць працаваць на шматнацыянальныя, зніштожаныя вайной землі, акрамя таго, зарплата настаўнікаў тут была ў 2-3 разы ніжэйшай, чым у Польшчы, а ўмовы жыцця і працы вельмі складанымі. Кіраўніцтва секцыі асветы разумела, што прыцягнуць лепшыя настаўніцкія сілы немагчыма без павышэння зарплаты. На ўсходніх землях яна складала ў пачатку дзейнасці секцыі 300-500 марак у месяц. Па дамоўленасці з генеральным камісарам у снежні зарплаты былі павялічаны да 700-900 марак, а з сакавіка сярэдняя зарплата дасягала 1000 марак у залежнасці ад кваліфікацыі і педагагічнага стажу[14]. Акрамя таго, настаўнікам былі прызначаны дадатковыя выплаты і ільготы на ўзроўні дзяржаўных чыноўнікаў. Дзякуючы гэтаму к лету 1920 г. удалося спыніць адток настаўнікаў на кіруючыя дзяржаўныя пасады і ў іншыя працоўныя сферы, што было катастрофай для школьніцтва пад час арганізацыі ГУУЗ[15].

Адначасова секцыя асветы занялася справай паразумення настаўнікаў з бацькамі, выдаўшы некалькі распараджэнняў аб школьнай апецы. Аб кожнай агульнай школе павіна было клапаціцца школьнае апякунства — грамадскі орган самакіравання, які складаўся з галоўнага апекуна, якога назначаў павятовы школьны інспектар з насельніцтва

[12] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 4 (11 grud.), poz. 463, Okólnik Szefa Sekcji Oświecenia Publicznego Komisarjatu Generalnego Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich do inspektorów szkolnych okręgowych, 3 grudnia 1919 r.

[13] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1680, k. 15, Szkolnictwo na Kresach Wschodnich.

[14] Dz. U. ZCZW, 1920, nr 22 (16 marca), poz. 545, Rozporządzenie Komisarza Generalnego Ziem Wschodnich w przedmiocie uregulowania płac nauczycieli szkół powszechnych, 16 marca 1920 r.

[15] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1773/ 6/ II, k. 58-64, L. Zarzecki, *Rzut oka na całość działalności Sekcji Oświecenia Publicznego w Wilnie*, Toruń, 12 stycznia 1921 r.

школьнага раёна, дзвюх асоб, якія штогод выбіраліся на бацькоўскіх сходах, прадстаўніка духавенства, які нёс адказнасць за вывучэнне рэлігіі ў школе, а таксама кіраўніка школы, які выконваў функцыю саkратара. Школьнае апякунства павінна было наладзіць перш за ўсё матэрыяльны бок вучэбнага працэсу: распрацоўваць праекты гаспадарчых выдаткаў кожнай школы, клапаціцца аб рамонце, апале, асвятленні і санітарным стане памяшканняў, забеспячэнні настаўнікаў і г.д. Акрамя таго, школьнае апякунства сачыла за наведваннем вучнямі заняткаў, кантралявала сямейны побыт, аказвала дапамогу найбольш збяднелым сем'ям, а таксама сачыла за „адпаведнасцю маральнага ўздзеяння школы на дзяцей". На органы мясцовага самакіравання (гмінныя рады) ускладалася не толькі забеспячэнне настаўнікаў жыллём, святлом і апалам, а таксама прадугледжвалася харчовая дапамога ў дакладна вызначаных памерах: 25 пудоў жыта, 30 пудоў бульбы, 4 пуды гародніны і 1 пуд тлушчу[16].

Секцыя асветы імкнулася ўніфікаваць правілы адкрыцця новых школ і вучэбны працэс. У першым распараджэнні, якое тычылася арганізацыі асветы і школьніцтва на тэрыторыі ГУУЗ, якое было падпісана намеснікам генеральнага камісара Э. Івашкевічам 11 кастрычніка 1919 г., абвяшчалася ўсталяванне прынцыпаў свабоды навучання на роднай мове ўсіх нацыянальных груп, якія пражывалі на дадзенай тэрыторыі. Ажыццяўленне гэтых прынцыпаў павінна была забяспечыць магчымасць арганізацыі нацыянальных школ, якая надавалася прыватным асобам, правамоцным таварыствам і арганізацыям, а таксама дзяржаўным установам. Аднак пры гэтым вызначаўся шэраг правілаў, якімі неабходна было кіравацца пры арганізацыі і дзейнасці кожнай школы. Як і ў Польскай дзяржаве, выкладанне рэлігіі на тэрыторыі ГУУЗ лічылася маральнай падставай выхавання, таму ўвядзенне рэлігійных прадметаў на роднай мове і ў адпаведнасці з веравызнаннем вучняў станавілася абавязковым. Згодна з адукацыйнай сістэмай, якая фарміравалася на тэрыторыі Польскай дзяржавы, замест усіх ранейшых тыпаў навучальных устаноў на занятых беларускіх землях павінны былі ўтварыцца агульнаадукацыйныя (повшэхныя), сярэднія і прафесійныя, а таксама вышэйшыя школы. Ва ўсіх школах абвяшчалася ўвядзенне польскай мовы як абавязковага прадмета выкладання, на які адводзілася не менш за 2 гадзіны ў тыдзень у кожным класе. У няпольскія школы назначаліся настаўнікі польскай мовы, працу якіх павінны былі аплачваць са

[16] Dz. U. ZCZW, 1920, nr 9 (9 lut.), poz. 154, Okólnik Szefa Sekcji Oświecenia Publicznego Komisarjatu Generalnego Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich do inspektorów szkolnych okręgowych w sprawie opiek przy szkołach powszechnych, 23 stycznia 1920 r..

сродкаў павятовых школьных інспектаратаў. Прыватным школам дазвалялася распрацоўваць уласныя вучэбныя праграмы і свабодна імі карыстаццца. Аднак, тыя школы, якія атрымлівалі хоць нейкую дзяржаўную дапамогу, павінны былі працаваць толькі згодна з праграмамі, распрацаванымі ў секцыі асветы[17]. На практыцы ніякіх адзіных афіцыйна зацверджаных праграм не існавала, таму ў дзяржаўных школах навучанне адбывалася часцей за ўсё па тых планах, якія складаліся настаўнікамі з дазволу мясцовых школьных інспектараў. У студзені 1920 г., „з мэтай урэгулявання хаосу, які панаваў у агульным школьніцтве" кіраўнік секцыі асветы Л. Зажэцкі выдаў распараджэнне аб увядзенні ў школах адзіных вучэбных праграм, распрацаваных і зацверджаных Міністэрствам веравызнанняў і грамадскай асветы[18]. Аднак справа „прыстасавання праграмы ўсеагульнай школы Міністэрства веравызнанняў і грамадскай асветы да патрэб школы на Усходніх землях" была адкладзена на нявызначаны час[19].

Арганізацыя новых школ на беларускіх тэрыторыях ГУУЗ, якая ў асноўным пачалася з кастрычніка 1919 г., дазвалялася прыватным асобам, праваможным грамадскім таварыствам і ўрадавым арганізацыям. Усе прыватныя школы мелі права на атрыманне дзяржаўнай дапамогі пры станоўчай адзнацы іх працы з боку мясцовых і вышэйшых адукацыйных улад. Акрамя таго, у школах, якія разлічвалі на дзяржаўныя субсідыі, мова выкладання павінна была з'яўляцца роднай не менш, чым для 2/3 вучняў, альбо польскай. Адкрыццё і ўтрыманне школы лічылася не толькі правам, але і абавязкам насельніцтва і кіраўніцтва кожнай гміны. Дазвол на арганізацыю ўсеагульных пачатковых школ неабходна было атрымаць ад школьнага інспектара пэўнай акругі, адкрыццё сярэдніх і прафесійных школ кантралявала секцыя асветы і грамадскай апекі непасрэдна. Пытанне аб адкрыцці новай школы прыватнай асобай павінна было разглядацца адукацыйнымі ўладамі толькі пры ўмове падачы наступных дакументаў: натарыяльна заверанага пасведчання ад асоб, якія згаджаліся ўзяць на сябе абавязак утрымання школы і адказнасць за маральны і педагагічны накірунак яе працы, дакладны план і апісанне школьнага памяшкання, пацвярджэнне ад школьнага ўрача аб адпавед-

[17] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 31 (18 listop.), poz. 340, Rozporządzenie tymczasowe Komisarza Generalnego Ziem Wshodnich, dotyczące szkolnictwa i oświaty, 11 października 1919 r.

[18] Dz. U. ZCZW, 1920, nr 3 (17 stycz.), poz. 32, Okólnik Szefa Sekcji Oświecenia Publicznego Komisarjatu Generalnego Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich do inspektorów szkolnych okręgowych, 12 stycznia 1920 r.

[19] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc.1773/6/ II, k. 58-64, L. Zarzecki, *Rzut oka na całość dzialności Sekcji Oświecenia Publicznego w Wilnie*, Toruń, 12 stycznia 1921 r.

насці дадзенага памяшкання санітарным патрабаванням, вызначэнне тыпу школы (колькасць аддзелаў, усеагульная або спецыялізаваная і г.д.), мовы выкладання, праграмы навучання, якасны і колькасны склад падручнікаў, звесткі аб настаўніку (узровень адукацыі, кваліфікацыі, біяграфія, у якой абавязкова было адзначыць нацыянальнасць і веравызнанне)[20]. Не менш складанай была працэдура адкрыцця школы праз мясцовае самакіраванне. Праўленням гмін загадвалася спачатку наладзіць працу ў былых школах, а затым падрыхтаваць памяшканні для арганізацыі новых. На агульным сходзе жыхароў гміны неабходна было вызначыць, у якіх мясцовасцях патрабуюцца школы, на якіх мовах будзе весціся выкладанне, колькі грашовых сродкаў патрабуецца на ўтрыманне кожнай школы. На сходзе выбіраўся камітэт з 3-5 асоб, які быў адказны перад школьным інспектарам за рамонт школьных памяшканняў, матэрыяльнае забеспячэнне настаўнікаў і г.д.[21] Пастанаўленне гміннага сходу зацвярджалася павятовым старастам, затым перадавалася школьнаму інспектару, які ў сваю чаргу перадаваў паперу для канчатковага вырашэння пытання акруговаму школьнаму інспектару. Ад насельніцтва гмін патрабаліся канкрэтна вызначаная дапамога на арганізацыю школ. Акрамя таго, у асобных гмінах з пачатку 1920 г. уводзіўся зямельны падатак на патрэбы школ (ад 1 маркі з дзесяціны ў год)[22]. Аднак кіраўніцтва большасці гмін аказалася не ў стане на адпаведным ўзроўні арганізаваць утрыманне школ і настаўнікаў. На агульных сходах насельніцтва пачало адмаўляцца ад адкрыцця школ, што тлумачылася крайняй беднасцю і „немагчымасцю накарміць і апрануць нават уласных дзяцей”[23]. Грамадскія і прыватныя таварыствы таксама маглі выступаць як ініцыятары ўтварэння школ і іх уладальнікі. Дзейнасць прыватных школ да пачатку 1920 г. амаль не рэгулявалася з боку секцыі асветы Генеральнага камісарыята. У студзені выйшла пастанова, па якой прыватныя арганізацыі і таварыствы павінны былі адчыняць школы толькі згодна з агульнымі правіламі, якія дзейнічалі на тэрыторыі ГУУЗ. Кожнаму таварыству неабходна было прад’явіць уласны статут для зацвярджэння мясцовымі, а затым вышэйшымі школьнымі ўладамі, або спыніць сваю асветніцкую дзейнасць. Галоўнымі задачамі таварыстваў у галіне развіцця школьнай спра-

[20] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 31 (18 listop.), poz. 340, Rozporządzenie tymczasowe Komisarza Generalnego Ziem Wshodnich, dotyczące szkolnictwa i oświaty, 11października 1919 r.

[21] Занальны дзяржаўны архіў у г. Маладзечна (далей: ЗДАМ), ф. 478, воп. 1, спр. 1, арк. 81, Справа з заявамі жыхароў гмін Дзісненскага павета аб адкрыцці школ, 1919 г.

[22] ЗДАМ, ф. 436, воп. 1, спр. 61, арк. 50, Справа з перапіскай аб падаткаабкладанні насельніцтва Слабадской гміны.

[23] Там жа, арк. 12.

вы з'яўляліся наступныя: утварэнне школьных апякунстваў, якія займаліся матэрыяльнымі пытаннямі арганізацыі і ўтрымання школ, распрацоўка вучэбных праграм, забеспячэнне школ падручнікамі і дапаможнікамі, дапамога дзецям з бедных сямей і інш. Аднак удакладнялася, што калі прыватнае таварыства згаджаецца на атрыманне дзяржаўнай дапамогі для школы, пазбаўляецца права ажыццяўлення кантролю за вучэбным працэсам, выдачы асабістых цыркуляраў і распараджэнняў у справах асветы, назначэння настаўнікаў[24]. Усе прыватныя таварыствы маглі звяртацца ў секцыю асветы толькі праз акруговых школьных інспектараў. Гэтае правіла не распаўсюджвалася толькі на самае вядомае і ўплывовае каталіцкае таварыства Польскай мацержы школьнай, якое мела права звяртацца да вышэйшых адукацыйных улад непасрэдна.

У пачатку снежня 1919 г. секцыя асветы пачала займацца распрацоўкай сеткі прафесійных школ і курсаў на тэрыторыі ГУУЗ. Школьным інспектарам загадвалася падлічыць колькасць прафесійных школ, якія працавалі ў той час, а таксама высветліць, у якіх мясцовасцях да пачатку вайны існавалі прафесійныя навучальныя ўстановы і якая была іх спецыялізацыя[25]. У лютым 1920 г. пры секцыі асветы былі арганізаваны аддзел прафесійных школ (заводовых) і рада прафесійнага школьніцтва на чале з Зажэцкім. Быў распрацаваны цэлы план развіцця прафесійнага школьніцтва, „у якім улічваліся асаблівасці розных мясцовасцей[26]". Аднак застаецца толькі здагадвацца, якія асаблівасці меліся на ўвазе: нацыянальныя, палітычныя, ці іншыя. Прафесійныя школы нельга разглядаць як сродак распаўсюджвання польскай адукацыі, таму што мова выкладання ў іх дакладна не акрэслівалася. Цікава, што грошы на ўтрыманне кожнай асобнай школы польскае кіраўніцтва вылучала ў залежнасці ад таго, на колькі карыснай прызнавалася яе дзейнасць. У першым квартале 1920 г. прафесійныя школы на тэрыторыі ГУУЗ атрымалі 724 501 марку. У параўнанні з падтрымкай усеагульных і сярэдніх школ, на развіццё якіх у гэты час было вылучана 9 288 710 і 2 190 027 марак адпаведна, фінансаванне прафесійных школ было сімвалічным[27]. Найбольшай пад-

[24] Dz. U. ZCZW, 1920, nr 7 (31 stycz.), poz. 119, Okólnik Szefa Sekcji Oświecenia Publicznego Komisarjatu Generalnego Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich do inspektorów szkolnych okręgowych w sprawie stosunku czynników urzędowych do prywatnych towarzystw oraz tworzenia opiek szkolnych, 23 stycznia 1920 r.

[25] Dz. U. ZCZW, 1919, nr 4 (11 grud.), poz. 479, Okólnik Szefa Sekcji Oświecenia Publicznego Komisarjatu Generalnego Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich do inspektorów szkolnych okręgowych, 5 grudnia 1919 r.

[26] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc.1773/6/ II, к. 58-64, L. Zarzecki, *Rzut oka na całość działalności Sekcji Oświecenia Publicznego w Wilnie*, Toruń, 12 stycznia 1921 r.

[27] „Dziennik Wileński", 1920, nr 57 z 11 marca.

трымкай на землях ГУУЗ карысталася прафесійнае школьніцтва на Брэстчыне. Важна падкрэсліць, што рамесныя школы выраблялі прадукцыю не толькі для самазабеспячэння, але перш за ўсё для вайсковых патрэб.

Як ужо адзначалася, у залежнасці ад палітычных тэндэнцый на розных беларускіх тэрыторыях развіццё школьніцтва мела пэўныя асаблівасці.

### 1. Віленшчына і Гродзеншчына

Віленскі акруговы школьны інспектарат на чале з Вянслаўскім распачаў дзейнасць з жніўня 1919 года, аднак першыя павятовыя школьныя інспектараты пачалі ўзнікаць ужо з красавіка 1919 г. (у Свянцянах, Гродне, Лідзе). На занятыя польскімі войскамі паветы накіроўваліся інструктары Таварыства Стражы крэсовай, якія, акрамя высвятлення палітычнай сітуацыі і настрояў насельніцтва, пачалі займацца арганізацыяй гаспадарчага і культурнага жыцця. Па статыстычных дадзеных Стражы крэсовай, каб ахапіць навучаннем усіх дзяцей школьнага ўзросту, у кожным павеце Віленшчыны неабходна было арганізаваць 150-200 польскіх школ[28]. У ліпені 1919 г. была арганізавана Польская мацеж школьна Віленшчыны, якая пачала сістэматычную працу па арганізацыі і падтрымцы польскіх школ у паветах. Функцыі мясцовых органаў самакіравання, у тым ліку і па падтрымцы школ, з канца жніўня сталі выконваць Людовыя рады, якія арганізоўваліся ў паветах па ініцыятыве і пад кантролем Стражы крэсовай. З узнікненнем акруговага школьнага інспектарата, пачалася рэгістрацыя навучальных устаноў і настаўнікаў. Працэс арганізацыі павятовых школьных улад на Віленшчыне і Гродзеншчыне адбываўся вельмі марудна. Напрыклад, у Браслаўскім павеце школьны інспектар быў назначаны толькі 18 снежня 1919 г., нягледзячы на тое, што кандыдат на дадзеную пасаду Ю. Нарушэвіч прыбыў з Вільні яшчэ ў кастрычніку. Павятовы стараста Багдан Шахно магчыма не быў задаволены прысланай кандыдатурай і неаднаразова звяртаўся да школьнага інспектара Віленскай акругі з просьбамі даслаць каго-небудзь іншага, які мог бы патлумачыць умовы, на якіх неабходна адчыняць школы і планаваць расход бюджэтных сродкаў[29]. „Пан Нарушэвіч прыбыў у Браслаў без плана дзейнасці, без грашовых сродкаў, без кніжак і падручнікаў, без канцылярскіх прылад", — рапартаваў Браслаўскі стараста начальніку Віленскай акругі Конраду Недзялкоўскаму ў лістападзе 1919 г.[30] Фактычна

[28] Archiwum Akt Nowych, Towarzystwo Straży Kresowej, nr sygn. 171, k. 47-50, Uzasadnienie preliminarza na przeprowadzenie akcji związanej z plebiscytem w gub. Grodzieńskiej, Wileńskiej, Mińskiej, 4 października 1919 r.

[29] ЗДАМ, ф. 436, воп. 1, спр. 17, арк. 52, Дело с перепиской школьного инспектора Браславского повета об организации работы школ 1919-1920 гг.

[30] Там жа, арк. 74.

інспектарат пачаў працу толькі ў пачатку сакавіка 1920 г., калі было знойдзена памяшканне і прынятыя на працу сакратар, працаўнік канцылярыі, рэвізор. Да гэтага часу Нарушэвіч займаўся высвятленнем галоўнага пытання — колькасці школ у Браслаўскім павеце. Яму ўдалося ўстанавіць, што на той перыяд дзейнічала 12 школ, арганізаваных па ініцыятыве прыватных асоб, ксяндзоў і старасства. Аднак умовы, у якіх прыходзілася працаваць гэтым школам, былі жудаснымі. Памяшканні былі цеснымі, кепска асвятляліся і ацяпляліся, падручнікаў амаль не было (на занятках дзеці чыталі малітоўнікі), адсутнічалі журналы наведвання і паспяховасці, настаўнікі працавалі без вучэбных праграм[31]. Амаль з такой жа сітуацыяй сутыкнуўся школьны інспектар Дзісненскага павета. У школах адчувалася адсутнасць працоўнай дысцыпліны з боку вучняў і настаўнікаў. Апошнія самавольна вызначалі графік сваёй працы, тэмы заняткаў, ігнаравалі вядзенне дакументацыі. Што тычылася вучняў, то школьны інспектар заўважыў, што дзеці мелі неахайны знешні выгляд („прыходзяць у школу не ўмытыя і не прычасаныя"), „на занятках не слухалі настаўніка, а гучна размаўлялі паміж сабой, а на перапынках учынялі бойкі[32]". У кастрычніку 1919 г. інспектар выдаў распараджэнне аб абавязковай рэгістрацыі ўсіх школ, якія існавалі да гэтага ў павеце. Урадавым школам (szkoły rządowe) абяцалася значная матэрыяльная падтрымка з боку польскага кіраўніцтва, таму агульныя выдаткі насельніцтва на школьныя патрэбы маглі б значна скараціцца. Усё настаўніцтва павета таксама бралася на ўлік і, пасля стараннай праверкі адпаведнай дакументацыі, прымалася на ранейшыя пасады, але ўжо ў якасці дзяржаўных служачых. У сакавіку школьны інспектар Дзісненскага павета, не дачакаўшыся справаздач ад мясцовых настаўнікаў за студзень-люты, асабіста ў кожную школу даслаў загад, які падрабязна вызначаў правілы арганізацыі працоўнага працэсу ў школах. З гэтага часу настаўнікі павінны былі да першага чысла кожнага месяца дасылаць школьнаму інспектару справаздачы аб дзейнасці школы за папярэдні месяц (з абавязковым вызначэннем колькасці вучняў і іх веравызнання), завесці журнал наведвання і паспяховасці вучняў, у якім неабходна пісаць тэмы заняткаў, вызначыць неабходную колькасць падручнікаў і школьнага інвентару, скласці гадавы план і расклад заняткаў[33].

Адукацыйная палітыка польскіх улад на Віленшчыне і Гродзеншчыне характарызавалася чаргаваннем уціску і саступак адносна нацыянаֹль-

[31] ЗДАМ, ф. 436, воп. 1, спр. 85, арк. 8-10, Дело с ежемесячными отчётами о деятельности Браславского староства и перепиской с окружным управлением по административным вопросам 1920 г.

[32] ЗДАМ, ф. 478, воп. 1, спр. 1, арк. 29, Справаздачы школьнага інспектара Дзісненскага павета, 1919 г.

[33] Там жа, арк. 9.

ных школ і ў кожным павеце мела свае асаблівасці. Патлумачыць гэта можна тым, што кіраўніцтва не мела адзінага палітычнага погляду на будучы лёс гэтых зямель. Школьныя інспектары, не маючы канкрэтных распараджэнняў, вырашалі праблемы адукацыі па свайму ўласнаму разуменню. Асабліва гэта адчула на сабе беларускае школьніцтва. Сярод мясцовай адміністрацыі былі не толькі прыхільнікі федэралізму альбо інкарпарацыі. Напрыклад, гродзенскі школьны інспектар Рафал Вазнякоўскі не з'яўляўся праціўнікам беларусаў. Ён з недаверам ставіўся да дзеячаў Беларускай школьнай рады Гродзеншчыны і імкнуўся трымаць справу арганізацыі беларускіх школ пад уласным кантролем. Аднак беларускія дзеячы не былі шчырымі ні ў фінансавых справаздачах, ні ў метадах сваёй працы (па дадзеных БШР толькі ў Гродзенскім павеце дзейнічала каля 17 нелегальных беларускіх школ), што ў выніку прывяло да негатыўных адносін і недаверу з боку польскіх улад[34]. Зрабіць высновы аб накіраванасці польскай адукацыйнай палітыкі ў Віленскай акрузе (з пачатку 1920 г. дзейнасць улад становіцца больш выразнай у сувязі з падрыхтоўкай да будучага плебісцыту) дапамагаюць афіцыйныя статыстычныя дадзеныя. Так, у пачатку 1920 г. на тэрыторыі дзесяці паветаў і г. Вільні дзейнічалі 652 агульнаадукацыйныя польскія школы, у канцы 1919/1920 навучальнага года — 886. Пры гэтым колькасць беларускіх школ істотна не змянілася — адпаведна 12 у студзені і 17 у чэрвені 1920 г.[35] 7 студзеня 1920 г. у Вільні адбыўся Першы з'езд польскіх асветных таварыстваў Усходніх зямель, на якім прысутнічалі вышэйшыя адукацыйныя ўлады ГУУЗ. Л. Зажэцкі ў сваім выступленні падкрэсліў неабходнасць „супрацоўніцтва дзяржавы і грамадскіх арганізацый у справах школьніцтва". Польская мацеж школьна павінна была ўзяць на сябе ролю каардынацыйнага цэнтра, аб'яднаць вакол сябе ўсе асветныя арганізацыі і наладзіць іх супрацоўніцтва для дасягнення агульнай мэты — развіцця польскай адукацыі і культуры на землях, якія ў хуткім часе павінны былі стаць неад'емнай часткай Польскай дзяржавы[36].

### 2. Брэстчына

Першыя школьныя інспектараты пачалі арганізоўвацца на Брэстчыне ў красавіку 1919 г. Галоўную сваю задачу школьны інспектар Брэсцкай акругі Казімір Вольбек бачыў у тым, каб стварыць як мага больш польскіх школ. У сваім распараджэнні ён меў зладжаную каманду аднадумцаў — павятовых школьных інспектараў, мясцовых арганізацый Поль-

[34] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1773/6/1.

[35] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc.1680, k. 15, Szkolnictwo na Kresach Wschodnich

[36] „Szkoła Polska" 1920, nr 1, s. 28.

скай мацежы школьнай і апякунскіх радаў. Да канца кастрычніка 1919 г. у Брэсцкім, Кобрынскім, Пружанскім, Ваўкавыскім і Слонімскім паветах было ўтворана 200 новых польскіх школ, якія атрымлівалі добрую фінансавую дапамогу. У Пінскім і Баранавіцкім паветах праца распачалася значна пазней, аднак да канца 1919 г. было загэгістравана 70 новых школ. У чэрвені 1920 г. у Брэсцкай акрузе дзейнічала 499 польскіх школ, якія ахоплівалі 29 582 вучняў і 673 настаўнікаў[37]. Схіліць насельніцтва да польскіх школ на дадзеных тэрыторыях для польскіх улад не было праблематычна. Беларускі нацыянальны рух не меў тут папулярнасці і не аказваў ніякіх уплываў. Разам з тым, матэрыяльная падтрымка школ і ўвогуле абяздоленага насельніцтва (раздача адзення, харчаванне, пункты дарэмнай медыцынскай дапамогі, арганізацыя прытулкаў і інтэрнатаў і інш.) з боку польскіх грамадскіх арганізацый адыграла вырашальную ролю на карысць мясцовай улады. Беларускія школы на Брэстчыне мясцовая адміністрацыя лічыла абсурдам — нават калі ў асобных выпадках насельніцтва і выказвала жаданне вучыць сваіх дзяцей па-беларуску, то для практычнага ажыццяўлення гэтай справы не было ніякіх падстаў: ні падручнікаў, ні адпаведных настаўнікаў, ні сродкаў. Не жадаючы пакідаць сваіх дзяцей без навукі, вяскоўцы вельмі хутка згаджаліся на іншыя школы. У адносінах да рускіх і яўрэйскіх школ, адукацыйныя ўлады Брэстчыны, улічваючы значны адсотак яўрэйскага насельніцтва, вялі памяркоўную палітыку. Руска-яўрэйскія школы з самага пачатку атрымлівалі фінансаванне ад Брэсцкага акруговага інспектарата, што да кастрычніка 1919 г. не мела ніякіх перашкод з боку ГУУЗ. Новае кіраўніцтва Секцыі асветы на чале з Зажэцкім імкнулася да паступовай ліквідацыі руска-яўрэйскага школьніцтва. Брэсцкае кіраўніцтва, па магчымасці працягваючы фінансаванне гэтых школ, паступова ўводзіла выкладанне польскай мовы, дапускаючы, што вучні і настаўнікі ў выключных выпадках (для разумення найбольш складаных пытанняў) могуць карыстацца рускай мовай. У старэйшых класах вырашана было на пэўны час захаваць рускую мову выкладання, аднак з ужываннем польскамоўнай тэрміналогіі. Лічылася, што такі стан справы, які ў Брэсцкай акрузе існаваў да сакавіка 1920 г., павінен быў задаволіць грамадства розных палітычных поглядаў. Аднак у снежні 1919 г. Нясвіжская руска-яўрэйская гімназія накіравала сваіх прадстаўнікоў да генеральнага камісара ў Вільню, якія паскардзіліся на тое, што школьны інспектар Брэсцкай акругі, насуперак афіцыйным распараджэнням, патрабуе выкладання прадметаў на польскай мове ў няпольскіх школах. Асмалоўскі згадзіўся з тым, што

[37] BPW, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, nr akc. 1773/10 IV, k. 1-4, Sprawozdanie rzeczowe Inspektoratu Szkolnego Okręgu Brzeskiego za czas swego istnienia od 3.04.1919 r. do 29.09.1920 r.

дзейнасць інспектара з’яўлялася „незаконнай” і дазволіў увядзенне рускай мовы выкладання ў малодшых класах. Гэтая саступка магла б парушыць стабільнасць развіцця школьнай справы, якой дамагалася мясцовае кіраўніцтва, аднак па прыкладзе Нясвіжскай гімназіі іншыя школы не пайшлі. У 1919/1920 навучальным годзе на Брэстчыне дзейнічала 6 польскіх і 12 руска-яўрэйскіх сярэдніх школ, якія знаходзіліся на дзяржаўным утраманні, 3 настаўніцкія семінарыі (у Кобрыне, Слоніме, Ваўкавыску), 4 рамесныя школы (у Пінскім і Слонімскім паветах, у Кобрыне). Калі ў 1919/1920 г. асноўная ўвага надавалася арганізацыі агульнаадукацыйных (повшэхных) школ (было затрачана каля 77% бюджэтных сродкаў), то на наступны год планавалася арганізацыя і падтрымка перш за ўсё прафесійных школ[38].

### 3. Міншчына

Прынцыпова іншую сітуацыю можна было назіраць на Міншчыне. Мінская акруга адрознівалася ад іншых тым, што польскае насельніцтва не складала тут значнага асяродка, а значыць кіруючыя колы былі амаль пазбаўлены падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва, па гэтай жа прычыне не мелі ўплываў ні Таварыства Стражы крэсовай, ні апякунскія рады, ні Польская мацерж школьная. З часоў нямецкай акупацыі на Міншчыне засталася значная колькасць беларускіх школ, і з гэтым польская ўлада не магла не лічыцца, акрамя таго, асабліва з восені 1919 г., менавіта тут былі сканцэнтраваны асноўныя сілы беларускага нацыянальнага руху. На Міншчыне захавалася традыцыя мясцовага самакіравання, якая цягнулася яшчэ з былых расійскіх часоў, таму школы былі перададзеныя на ўтрыманне Мінскага магістрата, грамадскіх арганізацый, павятовых і гмінных рад. Па сутнасці, адукацыйныя ўлады на Міншчыне апынуліся па-за межамі сваіх непасрэдных абавязкаў, іх функцыі абмяжоўваліся толькі да кантролю за дзейнасцю школ, ажыццяўляць які з-за адсутнасці транспартных сродкаў, фінансаў і аўтарытэту аказалася амаль немагчыма. Ні адзін з павятовых школьных інспектаратаў не быў цалкам укамплектаваны працаўнікамі: часцей за ўсё працаваў толькі інспектар і сакратар, якія адначасова па меры магчымасці выконвалі абавязкі рэвізораў. Нават у акруговым інспектараце рэвізорам усеагульных школ працаваў школьны інспектар Бабруйскага павета, а рэвізорам сярэдніх школ — сакратар інспектарата[39].

З 1 кастрычніка Мінскі магістрат прыняў на сваё забеспячэнне 17 пачатковых школ: 9 беларускіх (45 настаўнікаў), 2 польскія (усяго ў Мін-

[38] Там жа.

[39] BPW, Dział Rękopisów i Starych Druków, ZCZW, nr akc.1750, k. 8-11, Sprawozdanie Naczelnika Okręgu Mińskiego za cały czas istnienia od 8.08.1919 r. do10.07.1920 r.

ску афіцыйна дзейнічала 17 школ, у якіх працавала больш за 100 настаўнікаў) і 6 яўрэйскіх (усяго разам з прыватнымі дзейнічала 18 яўрэйскіх школ, 150 настаўнікаў). У сярэдзіне лістапада на ўтрыманне гарадской адміністрацыі былі прыняты 1 польская, 1 яўрэйская, 1 руская і 3 беларускія вышэйшыя пачатковыя школы[40]. Па прычыне вельмі павольнага паступлення падаткаў, мясцовыя органы самакіравання аказаліся не ў стане ўтрымліваць школы і настаўнікаў. Школьніцтва апынулася ў крытычным становішчы. Напрыклад, земскае самакіраванне Мінскага павета планавала з верасня 1919 г. па чэрвень 1920 г. выдаць на развіццё школьнай справы 1 241 770 марак, а фактычна за гэты перыяд школьны інспектарат атрымаў толькі 285 581 марак. 7 снежня 1919 г. у Мінску пачалася забастоўка беларускіх настаўнікаў, якую з 16 снежня падтрымалі рускія настаўнікі і некаторая частка працаўнікоў яўрэйскіх школ[41]. Гэта падштурхнула гарадскія польскія ўлады некалькі разоў звярнуцца да аддзела асветы Генеральнага камісарыята Усходніх зямель, які ў пачатку лютага 1920 г., нарэшце, вылучыў грошы на першую зарплату настаўнікам мінскіх беларускіх, рускіх, яўрэйскіх школ, а таксама адзінай у горадзе татарскай школы[42]. У сакавіку 1920 г. на ўтрыманні магістрата знаходзілася 39 пачатковых (19 беларускіх, 7 яўрэйскіх, 9 рускіх, 3 польскія і 1 татарская школа) і 6 вышэйшых пачатковых школ, беларуская гімназія, гандлёвая школа, школы сляпых і глуханямых дзяцей[43]. Асноўная частка польскіх школ на Міншчыне працавалі пры падтрымцы Польскай школьнай рады, якая атрымлівала сродкі ад ГУУЗ. З гэтай жа крыніцы чэрпала сродкі і Беларуская школьная рада, якая аб'явіла сябе апекуном беларускіх школ. Абедзьве Рады дэманстравалі незалежнасць ад акруговых і павятовых школьных улад. Націск на беларускія школы пачаў адчувацца з пачатку 1920 г., калі на месца акруговага школьнага інспектара Мечыслава Кауса, які падаў у адстаўку, быў назначаны Люцыян Квек. Новы кіраўнік накіраваў да секцыі асветы ГУУЗ сакрэтны ліст, у якім выказаў сваё незадавальненне ажыццяўленнем школьнай справы на Міншчыне і выказаў шэраг уласных прапаноў. Школьны інспектар падкрэсліваў, што школьная справа на Міншчыне павінна служыць ас-

[40] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (далей: ДАМВ), ф. 1806, воп. 1, спр. 4 б, арк. 65, Справа з пратаколамі пасяджэнняў магістрата (жнівень 1919—люты 1920 гг).

[41] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 603, воп. 1, спр. 7, арк. 35, Справа з пратаколамі пасяджэнняў школьнай камісіі пры аддзеле асветы Магістрата (кастрычнік — снежань 1919 г.).

[42] ДАМВ, ф. 1806, воп. 1, спр. 87, арк. 24, Справа з перапіскай Магістрата з арганізацыямі Менска па пытанню забеспячэння школ (жнівень 1919 — чэрвень 1920 гг.).

[43] ДАМВ, ф. 1806, воп. 1, спр. 127, арк. 70, Прыкладны бюджэт Менскага магістрата на першы квартал 1920 г.

ноўным палітычным мэтам Польскай дзяржавы — далучэнню гэтых зямель да Польшчы. Па яго меркаванню, неабходна было прыняць усе школы на дзяржаўнае ўтрыманне: польскія — каб забяспечыць іх развіццё, а астатнія — каб паставіць пад поўны кантроль ад улад. Асаблівую пагрозу бачыў з боку беларускіх школ, якія да гэтага часу набылі значнае развіццё за кошт скарачэння колькасці рускіх. Падтрымка рускіх школ магла б знізіць незадаволенасць з боку рускіх настаўнікаў, якія засталіся без сродкаў да існавання і адцягнуць увагу насельніцтва ад беларускага нацыянальнага руху. Беларускія і рускія школы неабходна паступова пераўтвараць у польскія са згоды мясцовага насельніцтва. Для ўзмацнення польскіх школ на Міншчыне неабходна „сілай накіраваць сюды настаўнікаў з Польшчы”[44]. У гэты перыяд палітыка аддзела асветы Мінскага магістрата адносна беларускіх школ відавочна мяняецца. У сакавіку адбыліся выбары ў магістрат, у выніку якіх большасць месц атрымалі палякі. Пасля таго, як Часлаў Родзевіч, кіраўнік аддзела асветы пра магістраце, прадстаўнік Беларускай школьнай рады, не згадзіўся перавесці працу аддзела асветы на польскую мову і заявіў на пасяджэнні магістрата, што „карыстацца беларускай мовай у афіцыйным справаводстве з'яўляецца яго правам, як беларуса і грамадзяніна”, у адносінах да яго пачалося сапраўднае цкаванне з боку афіцыйнай польскамоўнай прэсы. Не вытрымаўшы націску і абвінавачванняў у „антыўрадавай дзейнасці”, Родзевіч адказаўся ад пасады. Новы кіраўнік аддзела асветы Паўлюць адразу ж выдаў распараджэнне аб забароне прыватным асобам і арганізацыям звяртацца ў магістрат не на польскай мове, акрамя таго пачаў праводзіць бацькоўскія сходы ў беларускіх школах з мэтай рэарганізацыі іх у польскія[45]. Змена складу магістрата выклікала адкрытае незадавальненне Беларускай школьнай рады Міншчыны, аднак польскае кіраўніцтва ўсё больш выразна дэманстравала абыякавасць да настрояў беларускага боку. У красавіку школьны інспектар зрабіў спробу ўвесці ў беларускіх школах Мінска польскую мову, склікаўшы сход настаўнікаў. Беларускія настаўнікі ў знак пратэсту моўча выйшлі з памяшкання — менавіта так апісала вынікі гэтага сходу ў сваіх успамінах адна з прысутных настаўніц, у будучым прадстаўніца беларускай эміграцкай інтэлігенцыі Апалінарыя Раткевіч[46]. Польскія ўлады, магчыма, палічылі, што дабівацца далейшага вырашэння пытання аб увядзенні польскай мовы ў беларускія школы ў канцы навучальнага года не мае сэнсу.

[44] BPW, Dział Rękopisów i Starych Druków, ZCZW, nr akc. 1750, k. 23-26, Poufnie do Sekcji OP ZCZW, 14 stycznia 1920 r.

[45] НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 7, арк. 100, Ліст Беларускай школьнай рады Меншчыны да школьнага інспектара Менскай акругі.

[46] А. Раткевіч, *Пачаткі беларускага школьніцтва ў Менску*, „Запісы”, Беларускі інстытут навукі і мастацтва; гал. рэд. В. Тумаш, Нью-Ёрк 1978, вып.16, с. 84-91.

Згодна з распараджэннем секцыі асветы і грамадскай апекі Генеральнага камісарыята ад 22 сакавіка 1920 г., школы, якія не знаходзіліся на дзяржаўным забеспячэнні, павінны былі выдаваць пасведчанні сваім выпускнікам на той мове, на якой вялося выкладанне. Аднак такія прыватныя пасведчанні не рэгістраваліся школьным інспектарам. Для школ, якія знаходзіліся на ўтрыманні магістрата, выдаваліся друкаваныя бланкі пасведчанняў, распрацаваныя Беларускай школьная радай Міншчыны, школьнымі аддзеламі Яўрэйскай і Татарскай абшчын на дзьвюх мовах — на мове выкладання і абавязкова на польскай. Рускія школы вымушаны былі выдаваць пасведчанні на польскай мове, напісаныя ад рукі[47]. 1919/1920 навучальны год у мінскіх школах быў скончаны 12 чэрвеня. Выпускныя пасведчанні выдаваліся без экзаменаў, на падставе гадавых паказчыкаў вучняў. 1920/1921 навучальны год у Мінску планавалася распачаць з 30 жніўня, аднак у ліпені ў горадзе зноў усталявалася савецкая ўлада, што вызначыла зусім іншы накірунак развіцця школьнай справы. Падчас эвакуацыі на Міншчыне налічвалася прыкладна 1120 агульнаадукацыйных школ (327 польскіх, 233 беларускіх, 537 рускіх, 23 яўрэйскіх), 100 сярэдніх школ (16 польскіх, 2 беларускія, 51 руская і 31 яўрэйская) і 15 прафесійных навучальных устаноў (3 польскія і 12 рускіх)[48].

Такім чынам, школьная справа на беларускіх землях ГУУЗ знаходзілася ў залежнасці ад складаўшайся палітычнай сітуацыі. Праблемы асветы не маглі атрымаць дастатковай увагі з боку ўлад пры цяжкіх умовах ваеннага часу. У сітуацыі, калі не быў вызначаны геапалітычны лёс занятых польскімі войскамі тэрыторый, аб развіцці адукацыі сур'ёзнай размовы ісці не магло. Школы разглядаліся перш за ўсё як сродак праводзення ў жыццё той ці іншай палітычнай ідэі, таму ўласна педагагічныя пытанні аўтаматычна адсоўваліся на другі план. Секцыя асветы з кастрычніка 1919 г. дзейнічала пераважна насуперак афіцыйнай праграмы Юзафа Пілсудскага. Гэта адмоўна адбілася на развіццю няпольскіх школ, аднак у цэлым мела станоўчыя вынікі. За перыяд існавання ГУУЗ колькасць агульнаадукацыйных школ на беларускіх тэрыторыях павялічылася на 120%, зроблены былі значныя крокі для арганізацыі вучэбнага працэсу, распрацоўцы агульных праграм навучання, арганізацыі сярэдніх і прафесійных навучальных устаноў. Па магчымасці надавалася ўвага паляпшэнню матэрыяльнага становішча настаўнікаў. Аднак немагчымасць наладзіць кантроль за выкананнем распараджэнняў, дзейнасць школьных улад згодна з уласнымі палітычнымі поглядамі,

[47] НАРБ, ф. 603, воп. 1, спр. 13, арк. 34, Распараджэнне секцыі асветы Магістрата (22 сакавіка 1920).

[48] BPW, Dział Rękopisów i Starych Druków, ZCZW, nr akc. 1750, k. 8-11, Sprawozdanie Naczelnika Okręgu Mińskiego za cały czas istnienia od 8.08.1919 r. do 10.07.1920 r.

залежнасць у гаспадарчых пытаннях ад мясцовай адміністрацыі не дазволілі стварыць адзінай адукацыйнай сістэмы.

**Summary**

**Basic directions of educational policy within the Belarusian Area of the Civil Board of Eastern Territories (1919-1920)**

The article is devoted to the issue of occupational policy pursued by the Polish authorities within the area of the Civil Board of Eastern Territories. Based on the archival sources, both Polish and Belarusian, the author determines basic directions of the educational system's development, quotes numerous statistical data and pays attention to characteristic features of occupational authorities' operation in the region of Vilnius, Hrodna, Minsk and Volhynia. The author has drawn a conclusion according to which development of the system of education in Belarusian territory during the Polish-Soviet War of 1919-1920 depended on political fixations of civil servants representing state administration. This policy was characterized by lack of consequences resulting from no explicit vision of the future of the Belarusian territory.

**Streszczenie**

**Podstawowe kierunki polityki oświatowej na białoruskim obszarze Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich (1919-1920)**

Artykuł jest poświęcony kwestii polityki okupacyjnej władz polskich na obszarze Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich. W oparciu o źródła archiwalne — polskie i białoruskie — Autorka określa podstawowe kierunki rozwoju szkolnictwa, przytacza liczne dane statystyczne oraz zwraca uwagę na cechy charakterystyczne działalności władz okupacyjnych na terenie Wileńszczyzny, Grodzieńszczyzny, Mińszczyzny i Polesia. Autorka doszła do wniosku, że rozwój szkolnictwa na ziemiach białoruskich podczas wojny polsko-bolszewickiej 1919-1920 był uzależniony od zapatrywań politycznych urzędników reprezentujących administrację państwową. Polityka ta cechowała się brakiem konsekwencji wynikającym z braku wyraźniej wizji przyszłości ziem białoruskich.

**Alena Trubczyk** — wykładowca w Katedrze Filozofii i Historii Białoruskiego Państwowego Rolniczego Uniwersytetu Technicznego w Mińsku. Zainteresowania badawcze — Białoruś w okresie wojny polsko-sowieckiej (1919-1921).